ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Лістапад 2013

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

## Нацыянальная мова = Нацыянальная бяспека




**А таксама ў нумары:**

### Іскавыя заявы:

- аб зацвярджэнні міравога пагаднення
- аб адкладаванні разбірацельства (прыпыненні вытворчасці) па справе
- аб спыненні вытворчасці па справе з адмовай ад іску
- заўвага на пратакол судовага поседжання
- аб звароце дакумента, далучанага да справы
- аб выдачы справы для азнаямлення
- аб звароце дзяржпошліны
- аб аднаўленні тэрміну на абскарджаванне рашэння суда

**50** прыкладаў ІСКАВЫХ ЗАЯЎ




у грамадзянскім працэсе ПА-БЕЛАРУСКУ

11

У суд_____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку, год нараджэння, адрас
__________________________________
ісца і адказчыка)

**ЗАЯВА**
**аб зацвярджэнні міравога пагаднення**

Мы, ______________________________________________________________
(П.І.І па-бацьку бакоў)
Бакі па іску _______________________________________________________
(назва справы)
заключылі міравое пагадненне, у адпаведнасці з умовамі якога ісцец_________________________________________________________
(П.І.І па-бацьку ісца і абавязкі, якія ён бярэ на сябе
______________________________________________________________________
у мэтах вырашэння спрэчкі)
адказчык ___________________________________________________________
(П.І.І па-бацьку адказчыка і яго абавязкі)
просім міравое пагадненне зацвердзіць, а вытворчасць па справе спыніць.
Наступствы зацвярджэння міравога пагаднення, прадугледжаныя арт. 245 і 247 ГПК, нам растлумачаны і зразумелы.

Дата Подпісы бакоў



12

У суд_____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку, адрас заяўніка)

**ЗАЯВА**
**аб адкладванні разбірацельства**
**(прыпыненні вытворчасці) па справе**

У вытворчасці суда ________________________________ знаходзіцца справа па Іску (заяве) ___________________________________________________________
______________________________________________________________________
(пазначыць ісца, адказчыка і характар іска)
На _______________________________________ прызначана яго разбірацельства.
(число, месяц, год)
У сувязі з тым, што ______________________________________________________
(пазначыць прычыны немагчымасці разгляду
______________________________________________________________________
справы ў дадзеным судовым паседжанні)
прашу разбірацельства справы адкласці (прыпыніць вытворчасць па ________________ справе) да ________________________________________.
(число, месяц, год)

Дата Подпіс



13

У суд_____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку, адрас заяўніка)

**ЗАЯВА**
**аб спыненні вытворчасці па справе ў сувязі з адмовай ад іску**

Прашу вытворчасць па майму іску да ____________________________________
(П.І.І па-бацьку адказчыка)
______________________________________________________________________
(сутнасць спрэчкі)
спыніць, таму што ________________________________________________
(пазначыць прычыны адмовы ад іску)
Аб наступствах адмовы ад іску, прадугледжаных арт. 245 і 247 ГПК, мне вядома.

Дата Подпіс



14

У суд_____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку грамадзяніна, што падае заўвагі;
__________________________________
у якасці каго ён ўдзельнічаў у працэсе)

**ЗАЎВАГА**
**на пратакол судовага паседжання**

______________________________________ адбылося судовае паседжанне па
(число, месяц, год)
разгляду грамадзянскай справы __________________________________.
Азнаёміўшыся з пратаколам судовага паседжання, уношу ў яго наступныя заўвагі:
______________________________________________________________________
(пазначыць, якія істотныя моманты судовага
______________________________________________________________________
разбіральніцтва справы не знайшлі адлюстравання ці адлюстраваны ў пратаколе
______________________________________________________________________
не цалкам і не дакладна)

У адпаведансці з арт. 176 ГПК,

**ПРАШУ:**

Засведчыць дакладнасць пазначаных заўваг на пратакол судовага паседжання і далучыць іх да справы.

Дата Подпіс

15

У суд____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку, адрас заяўніка)

**ЗАЯВА**
**аб звароце дакумента, далучанага да справы**

Прашу вярнуць арыгінал, _______________________________________________
(пазначыць назву дакумента,
__________________________________________________________________
аб звароце якога просіць заяўнік)
далучаны да справы па іску (заяве), __________________________________
(П.І.І па-бацьку ісца (заяўніка),
__________________________________________________________________
адказчыка, сутнасць іска і дата вынясення судовай пастановы)
таму што ён патрэбен _______________________________________________
(пазначыць прычыну запатрабаванасці дакумента)

Дата Подпіс

*"Справаводства па-беларуску!" , "Зробім лепш-2013"*

16

У суд____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку, адрас заяўніка)

**ЗАЯВА**
**аб выдачы справы для азнаямлення**

Прашу выдаць для азнаямлення грамадзянскую справу па іску (заяве)_______________________________________________
(пазначыць П.І.І па-бацьку бакоў (прадстаўнікоў)
__________________________________________________________________
і сутнасць спрэчкі па грамадзянскай справе)
__________________________________________________________________
__________________________________________________________________
__________________________________________________________________
__________________________________________________________________

Дата Подпіс

*"Справаводства па-беларуску!" , "Зробім лепш-2013"*

17

У суд____________________________
__________________________вобласці
ад ________________________________
(назва арганізацыі ці
__________________________________
П.І.І па-бацьку заяўніка, адрас)

**ЗАЯВА**
**аб звароце дзяржпошліны**

У сувязі з _________________________________________________________
(пазначыць прычыны звароту дзяржпошліны)
прашу разгледзіць пытанне аб звароце мне ____________ рублёў дзяржаўнай пошліны, выплачанай пры падачы іскавой заявы ___________________________
(указаць
__________________________________________________________________
сутнасць іска)
__________________________________________________________________

Дата Подпіс

*"Справаводства па-беларуску!" , "Зробім лепш-2013"*

18

У суд____________________________
__________________________вобласці
ад________________________________
(П.І.І па-бацьку грамадзяніна, што падае заяву)

**ЗАЯВА**
**аб аднаўленні тэрміну на абскарджванне рашэння суда**

Рашэннем суда _____________________________________________________
___________________ вобласці ад "_____" ____________ ______ года _____
па грамадзянскай справе вызначана ___________________________________
__________________________________________________________________
(пазначыць сутнасць прынятага судом рашэння)
З рашэннем суда я не згодзен і маю намер абскардзіць яго ў касацыйным парадку. Аднак у пазначаны законам тэрмін я не змог падаць касацыйную скаргу па наступных прычынах:_________________________________________________
__________________________________________________________________

У адпаведансці з арт. 154 ГПК,

**ПРАШУ:**

Аднавіць мне тэрмін на абскарджванне рашэння суда.

Дата Подпіс

*"Справаводства па-беларуску!" , "Зробім лепш-2013"*

# Нацыянальная мова = Нацыянальная бяспека

***Апошнім часам шмат прыходзіцца чуць аб баяздольнасці і мадэрнізацыі беларускай арміі, аб розных сумесных вучэннях і іншых паказальных выступленнях беларускіх вайскоўцаў. Пры гэтым рапартуецца, што наша армія самая сучасная і баяздольная і любы вораг будзе разбіты, а перамога будзе за намі.***

Я не вайсковец, а таму не магу казаць праўда гэта ці перабольшванне, бо ў матэрыяльна-тэхнічным і вайскова-стратэгічным кіраванні маю вельмі абмежаваныя веды, як і большась беларусаў, што з'яўляюцца непрафесійнымі вайскоўцамі. Але ў плане нацыянальна-патрыятычнага выхавання беларускага войска, падаецца, у Беларусі ёсць вялікія праблемы. У свой час мне давялося павярхоўна, але з добрымі прыкладамі вывучаць пабудову Абарончых войскаў Эстоніі. Як не вайсковага спецыяліста, мяне больш за ўсё ўразіла не тое, якую зброю і тактыку мае эстонскае войска, а той патрыятычны дух, што ў ім пануе. Не кажучы аб тым, што ў войску дасягнута атмасфера, калі большасць грамадства падтрымлівае войска і абавязковы прызыў, а маладыя хлопцы хочуць служыць у рэгулярным войску, а 10-50 тысяч грамадзян Эстоніі знаходзяцца ў Кайцэліце (Звяз Абароны, нешта накшталт партызанаў, калі ў кожнага аўтамат і вайсковая форма пад ложкам), кідаецца ў вочы, як ўся сістэма падрыхтоўкі маладых жаўнераў прасякнута духам эстонскай мовы і нацыянльнай гісторыі. Гэта адносіцца ў першую чаргу да таго, што ў войску выкарыстоўваюць толькі эстонскую мову, таму шматлікія хлопцы, што хацелі б у войску служыць, у войска не трапляюць, бо ўзровень мовы іх не самы лепшы, а таксама, што войска будуецца на нацыянальных эстонскіх вайсковых і культурных традыцыях, пачынаючы ад песень і скончваючы формай і назвамі вайсковых падраздзяленняў. У беларускім войску, на жаль з гэтым вялікія праблемы. Мова руская, ідыалогія будуецца на савецкіх і імперскіх прыкладах, форма мала чым адрозніваецца ад савецкай. Як і мысленне, падаецца, не нацыянальнае беларускае, а савецка-інтэрнацыяналістычнае. Але гэта вельмі небяспечна. Калі салдат, а тым больш афіцэр, цалкам і грунтоўна не ўсведамляе сябе беларусам, што зямля, якую ён абараняе яго дом, незалежная дзяржава Беларусь, гэта прадстаўляе вялікую пагрозу для нацыянальнай бяспекі дзяржавы. Бо тэарытычна можа стацца так, што галоўны верагодны верагодны тэарытычны праціўнік-агрэсар можа ўвесці свае войскі ў Беларусь, а перад афіцэрамі і камандзірамі паўстане пытанне - змагацца супраць яго, ці стаць пад яго сцягі, бо мова адна і тая ж, ідыялогія адна і тая ж, і нават атрыбуты і форма падобныя. Таму ўжо зараз і неадкладна трэба па прыкладу эстонскіх абарончых войскаў мадэрнізаваць войска ў ідыялагічным накірунку. Трэба пачаць шырока ўжываць ў войску беларускую мову, вучыць салдат патрыятызму на беларускіх нацыянальных прыкладах, прывесці форму і знакі адрознення ў адпаведнасці з беларускімі нацыянальнымі традыцыямі. Няхай гэта ідыялогія і прапаганда, але для нацыянальнай бяспекі і незалежнасці Беларусі гэта вельмі важна. Бо інакш у выпадку агрэсіі тэарытычнага праціўніка можна страціць дзяржаву без адзінага стрэлу...

*Ігар Случак*

M&S MEDIA

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *"Справаводства па-Беларуску!"*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA